# Чаго чакае Ён?

Будучы 2013 год Святы Айцец Бэнэдыкт XVI абвясціў Годам веры. Як вы, сябры, думаеце – чаму? Мабыць, дзеля таго, каб усе мы добра падумалі пра тое, якая яна, наша вера? Напрыклад, чаму мы кожную нядзелю ідзем у касцёл? Ці прагнем мы сустрэчы з Езусам Хрыстом, ці прагнем пачуць тое, што Ён нам кажа сёння ў Евангеллі? А можа мы ідзем у святыню найчасцей таму, што туды ідуць мама з татам, бабуля з дзядулем альбо нашы сябры?

Магчыма, варта нам таксама падумаць пра тое, які прыклад мы як хрысціяне даем іншым людзям. І сваім равеснікам, і людзям самых розных узростаў. Бо ўсе мы – дзеці Божыя. Ці заўсёды мы памятаем пра тое, што Пан Бог любіць усіх нас: прыгожых і не вельмі, таленавітых і не вельмі, уважлівых, ветлівых і забіякаў, якім, магчыма, таксама часам бывае сумна і балюча?

Што гэта азначае – верыць? Ці толькі штодня маліцца? А што мы павінны рабіць? Бо сказаў жа апостал Якуб: «Вера без учынкаў мёртвая» (Як 2,26). Ніхто з нас, хутчэй за ўсё, не хоча мець мёртвай веры. Як жа і чым ажывіць яе?

*Пане, мой Божа!*
*Падтрымай, калі спатыкнуся,*
*падымі, калі на дол упаду.*
*Вызвалі, калі зло прыгняце,*
*пакліч, калі ад дабра адвярнуся.*
*Пакліч. Падымі. Падтрымай.*
*Мой Божа!*
*Так шмат ад Цябе прагну...*
*А Ты?*
*Чаго Ты, Пане, чакаеш*
*сёння ад мяне?*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

ANNUS FIDEI 2012 2013

# Рабіце простымі шляхі

Час Адвэнту, сябры, – гэта час паглыблення нашай веры. Святы Ян Хрысціцель гукаў-заклікаў: «Раўняйце дарогі Пану! Рабіце простымі сцежкі для Яго!» У Адвэнце мы часта чуем гэтыя словы ў касцёле. Што яны азначаюць? Каб мы як мага менш абманвалі і саміх сябе, і іншых, удаючы з сябе добрых хрысціянаў.

Адна дзяўчынка нядаўна распавядала, як яна пачала Адвэнт:

– Мы з сябрамі сабраліся на «андрэйкі» – так весела было!

«Андрэйкі» – гэта свята ў гонар апостала Андрэя, якое адзначаецца 30 лістапада. А паколькі сёлета праз дзень распачынаўся Адвэнт, то дзеці і сабраліся перад постам павесяліцца. Добрая справа. Якія там былі забавы ды гульні, пытаюся?

– Розныя, – адказвае, – я ўсяго і не ўспомню! Але самае цікавае было, калі пачалі варажыць, розныя карцінкі воскам на вадзе выліваць...

І тут мне зрабілася, сябры, вельмі сумна, бо што агульнага мае апостал Андрэй з варажбою воскам на вадзе, якая паходзіць з Турцыі? І пры чым тут Адвэнт? Забабоны гэта, сябры! Самыя сапраўдныя забабоны, якія ўзятыя з язычніцтва і не маюць нічога агульнага з хрысціянствам, бо забабоны, варажба, чытанне гараскопаў – усё гэта грэх, калі называць рэчы сваімі імёнамі. А калі прыхарошваць іх, то тады некаторыя могуць казаць, што варажба – усяго толькі прыгожая забава перад пачаткам Адвэнту. Але хіба яна выпроствае дарогі для Пана Езуса? Па такіх крывулістых сцежках, паверце, няпроста дабрацца да сэрца чалавека.

Ды і за апостала Андрэя крыўдна. Ён сваё жыццё аддаў за веру, памёр за яе на крыжы, а некаторыя людзі па сваёй бяздумнасці варажбой адзначаюць ягоны дзень. Ніколі не рабіце так, дарагія чытачы «Маленькага рыцара Беззаганнай»!

*А. Барткевіч*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 4 (58)/2012 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ, 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *media@catholic.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 9201.
Падпісана да друку 04.12.2012 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.



*Брат Тадэвуш Руцінскі*

# Святы Мікалай, альбо Дзед Мароз?

Ці ведаеце вы, сябры, што гэта за дом, у якім шмат дзяцей, але няма ніводнай мамы і ні нават паўтаты? Гэта – Дзіцячы дом. Дом, у якім вельмі холадна, хоць ацяпленне і нават каларыферы могуць грэць вельмі моцна. Ад таго холаду не мерзнуць ні вушы, ні насы, ні пальцы рук альбо ног. Толькі сэрцы курчацца і дрыжаць так, нібы іх схапіў у свае абдымкі Чараўнік Мароз альбо Снежная Каралева. Бо сэрцы нельга сагрэць каля печы ці абагравальніка, які называюць «сонейкам». Нават пры вясёлых сполахах агню ў грубцы альбо каміне сэрца застанецца замерзлым, нібы верабейка на снезе. Сэрца можна сагрэць толькі іншым сэрцам. У Дзіцячым доме выхавальніцы звычайна маюць замалыя сэрцы, каб абагрэць імі столькі сцюдзёных сэрцайкаў усіх дзяцей. І таму, хоць у гэтым доме ёсць шмат гульняў, кніжак, плюшавых прытулякаў, каляровых прыгожых плакатаў, тэлевізараў, там усё роўна больш сумна, чым у звычайным доме, дзе ёсць мама і тата. І асабліва сумна ды холадна там бывае ў святы Божага Нараджэння, калі ў звычайных дамах асабліва весела і цёпла.

У вігілію Божага Нараджэння ў Дзіцячым доме № 13 на вуліцы Сірочай усе дзеці чакалі адведзінаў святога Мікалая. Найбольш малыя спадзяваліся, што змогуць да яго прытуліцца і сагрэцца ў калматым Міколавым кажуху, паглядзець у ягоныя добрыя ўсмешлівыя вочы, бо святы Мікалай (так яны лічылі) – гэта як усе таты і дзядулі разам узятыя. Чым даўжэй чакалі, тым больш сумавалі, паглядалі ў вокны і, вядома ж, спадзяваліся, што святы Мікалай выканае ўсе іхнія жаданні. І вось нарэшце хтосьці гукнуў: «Прыехаў! Прыехаў! Ідзе!» Дзеці папрыліпалі да вакон і моцна здзівіліся, што святы Мікалай прыехаў не на санях, а на старым аўтамабілі. Але здзіўляцца часу не было, бо ўжо чуліся крокі на лесвіцы і пасопванне. Дзеці адкрылі раты, каб прывітаць шаноўнага госця песенькай «Дарагі наш Мікалай у чырвонай шапцы», але госць шырока адчыніў дзверы і апярэдзіў іх сваім грамавым:



– Я зусім не святы Мікалай! Я – Дзед Мароз! І патрабую, каб вы толькі так мяне называлі, бо не атрымаеце ніякага падарунка, а толькі фігу з макам!

Дзеці прыціхлі, а госць пасмяяўся і гучна так сказаў:

– Выбачайце, дарагія мае верхалазы! Захацелася вось і мне, старому, павыдурняцца. Але ж я і сапраўды ніякі не святы Мікалай. Я – пераапрануты ў карнавальны касцюм дарослы дзядзька. Ды пра сапраўднага святога Мікалая я магу вам тое-сёе расказаць. Хочаце паслухаць? Маеце час?

– Вядома! – закрычалі радасна ў адказ і абчапілі госця так, што кожны меў магчымасць прытуліцца да яго. Слухалі вельмі ўважліва, а паколькі было ўжо цёмна, то слухачы амаль што бачылі ўсё, пра што казаў госць.

А ён распавядаў пра хлопца, які меў два найдаражэйшыя для яго скарбы ў свеце – маму і тату. Але іх не стала, і хлопец застаўся жыць са скрыняй грошай. Аднак ён не любіў крамаў, не ганяўся і за новымі рэчамі. Ён амаль што нічога сабе не купляў, хоць і мог купіць усё, што хацеў. Ды падслухаў ён неяк, як адзін бацька бедаваў, бо не мог купіць чаго паесці сваім дзецям; пачуў, як плакала дзяўчына, якая не мела грошай на вяселле; пачуў размову дзяцей, якія не мелі нікога і нічога... І прыйшла яму ў галаву цудоўная думка, якую ён і ўзяўся ажыццяўляць. Днём ён купляў розныя патрэбныя людзям рэчы, а ўначы наш герой пераапранаўся ў плашч з башлыком і падкідваў свае пакупкі пад дзверы, укідваў у вокны ды... уцякаў. Людзі думалі, што гэта робіць нейкі анёл, пасланы Панам Богам, бо дзейнічаў ён так, як Ён, – нябачна. І нікому нават у галаву не прыходзіла, што гэта



ўсё рабіў дарослы ўжо хлопец Мікалай.

Аднойчы мужчыны вырашылі, што гэта злодзей цікуе каля іхняй хаты, і пагналіся за Мікалаем. Ён уцякаў ды змакрэлы ўскочыў у касцёл – схаваўся ад сваіх даганялаў. Прыслухаўся. Там, у пустым касцёле, маліўся стары ўжо біскуп, які пытаўся ў Пана Езуса, хто будзе пасля яго біскупам, добрым пастырам тутэйшых людзей. У гэтую ж хвіліну трэснуў мех Мікалая і з яго высыпаліся на падлогу падарункі. Усе зразумелі, што гэта менавіта ён быў тым таямнічым дабрачынцам. Менавіта ён і стаў праз нейкі час біскупам. Бо хто ж мог ім стаць, калі не ён?



...На наступны дзень у Дзіцячым доме адно й гаварылі, што пра адведзіны святым Мікалаем іхняга дому. А некалькі хлопчыкаў і дзяўчынак, як заўсёды, пабеглі ў касцёл на ўрокі па рэлігіі. Там яны таксама пачалі распавядаць усім пра ўчарашнія падзеі, пра тое, як да іх прыходзіў святы Мікалай з мехам падарункаў. Ды раптам на самым цікавым месцы Ганначка адкрыла рот і моўчкі паказала на акуляры ксяндза Мацвея, бо дакладна такія былі ўчора на носе святога Мікалая і гэтаксама ўвесь час святы Мікалай іх папраўляў. Гэтаксама... Дзеці прыціхлі, кумекуючы, што тут да чаго. А потым Ганначка выцягнула з сумкі вясёлкавыя навушнікі, якія яна ўчора зрабіла, працягнула іх ксяндзу Мацвею і хітравата прымружылася:

– Няхай і святы Мікалай хоць раз атрымае падарунак.

Янка выцягнуў паперку з тэкстам песні пра святога Мікалая, і дзеці дружна заспявалі яе. Потым усе разам высыпалі на двор і працягвалі так гучна й весела спяваць, што снегавікі, гледзячы на іх, пачыналі таяць ад радасці.

*Пераклад з польскай мовы І.С.*

# Шуміліна



Гэты гарадскі пасёлак знаходзіцца на дарозе з Полацка ў Віцебск. Калі едзеш па магістралі, ніяк не зможаш прамінуць яго, бо ён стаіць проста пры дарозе. Таму тут заўсёды шумна ад машын. А калісьці гэта была непрыкметная вёсачка. У XIX стагоддзі ў Шуміліне жыло ўсяго толькі 38 чалавек, а на пачатку XXI стагоддзя — 7,7 тысяч чалавек.



Галоўная славутасць гарпасёлка — касцёл Маці Божай Фацімскай, які з'явіўся тут зусім нядаўна, але ўжо стаў вядомы далёка за межамі Шуміліна. Прычына тоіцца ў тытуле гэтай святыні: Маці Божая, якая аб'явілася ў партугальскай Фаціме ў 1917 годзе, сказала людзям вельмі шмат, аб многім Яна папярэдзіла нас, асцерагла. Таму Яе так любяць вернікі. І таму штогод 13 мая, у дзень Маці Божай Фацімскай, у Шуміліна прыязджаюць і прыходзяць не толькі вернікі з гэтай парафіі, але і з розных куткоў Беларусі. Сюды прыходзяць пілігрымы і з Віцебска. Праўда, цікава, што пілігрымы ідуць з абласнога горада ў невялікі пасёлак? Гэтаксама, як ідзем мы ў Будслаў, Росіцу альбо ў іншыя мясціны, якія праславіліся сваёй духоўнай моцай.



У шумілінскім касцёле заўсёды радыя гасцям, і малітва тут трывае ў такія дні не толькі ў святыні, але і на прыкасцёльным пляцы. А іншым разам мясцовая моладзь і дзеці пакажуць прыгожы канцэрт, пантаміму. Заканчваюцца ж такія святы звычайна смачным пачастункам. Словам, прыязджайце ў Шуміліна! Тут вас сустрэне Маці Божая Фацімская і тыя, хто моцна любяць Яе.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Моцныя верай

**Хрысціянская вера — гэта скарб. Чалавек, які мае гэты скарб, можа лічыць сябе па-сапраўднаму багатым, бо вера дае чалавеку вельмі шмат — свабоду, упэўненасць, радасць, шчасце. Яна праганяе страх, дае нам надзею, дапамагае вытрываць у самых розных выпрабаваннях. Але дзеля таго, каб так і было, нам важна навучыцца берагчы гэты скарб і памнажаць яго. Як мы гэта робім і ці ўдаецца нам умацоўваць сваю веру? Над гэтымі і іншымі пытаннямі разважаюць хлопчыкі і дзяўчынкі з парафіі Маці Божай Фацімскай з Шуміліна.**



Вера патрэбна чалавеку для таго, каб ён быў добры, адкрыты на Духа Святога і Яго дары, каб мог дасягнуць неба. Мы, хрысціяне, павінны навучыцца быць соллю зямлі.

*Вольга Вішнякова,*
*г.п.Шуміліна.*





Чалавек, які верыць у Бога, сам робіцца лепшым, бо ён не толькі моліцца, але і робіць добрыя ўчынкі, дапамагае слабым і хворым.

*Іра Пяткевіч,*
*г.п.Шуміліна.*



Гэта так цудоўна, калі чалавек мае моцную веру, такую, якую мелі, напрыклад, святая Тэрэза, святы Вінцэнты дэ Поль! Дзеля таго, каб наша вера мацнела, трэба чытаць Біблію, уважліва слухаць Божае слова на Імшы, наведваць заняткі па рэлігіі.

*Саша Вішнякоў,*
*г.п.Шуміліна.*



Той, хто шмат моліцца, мае моцную веру і добрую душу.

*Каця Конышава,*
*в.Мішневічы.*



Людзі, якія маюць моцную веру, годна ўшаноўваюць Пана Бога. Я вельмі рада, што люблю Пана Бога ўсім сэрцам!

*Карына Пяткевіч,*
*г.п.Шуміліна.*



Я яшчэ не ведаю, ці моцная мая вера, але я вельмі хачу, каб так было, бо хачу быць добрым чалавекам і рабіць добрыя справы.

*Ангеліна Малашэнка,*
*г.п.Обаль.*



Людзі, якія вераць у Бога, — гэта добрыя людзі. Напрыклад, Вольга Вішнякова любіць дапамагаць малодшым, Ала Лазука таксама гатова заўсёды прыйсці на дапамогу іншым.

*Каця Гуцэнкава,*
*в.Вялікія Лежкі.*



Мы можам вучыцца любіць Пана Бога праз святых, якія ўжо ў небе, але гэтаму можна навучыцца і ў нашых айцоў, якія служаць у парафіі, у сясцёр, якія дапамагаюць нам пазнаваць Бога.

*Насця Міснік,*
*г.п.Шуміліна.*

Людзі ўмацоўваюць сваю веру, калі моляцца, ходзяць у касцёл, часта прымаюць святую Камунію.

*Лера Казлоўская,*
*в.Мішневічы.*



Мы павінны верыць Богу, прыходзіць на сустрэчу з Ім у касцёл, бо Езус Хрыстус нас моцна любіць. Вера праганяе ўсялякую злосць.

*Алег Хараўцоў,*
*в.Мішкавічы.*

# Разам




На такім вялікім ружанцы, які трымае Марынка Чараповіч з Наваполацка, не так і проста маліцца. Але затое радасна, бо ён зроблены сваімі рукамі з восеньскіх каштанаў. Праўда, з дапамогай татавых моцных рук.

Згадзіцеся, гэта здорава — зрабіць такі цудоўны ружанец і прынесці яго ў касцёл, для Маці Божай! А дома яны ўсёй сям'ёй моляцца, вядома, на звычайных ружанцах. Так зручней. Галоўнае, каб малітва была жывой і радаснай. Ды хіба яна можа быць іншай, калі на ёй яны ўсе разам – мама, старэйшая Марынчына сястра Аліса, малодшая Алёнка і тата. Праўда, на гэтым здымку таты не бачна, бо некаму ж трэба было фатаграфаваць іх. Ды галоўнае ўсё ж тое, што яны разам і моцна любяць адно аднаго!

А ў Адвэнце на світанні яны ідуць на Рараты. І гэта таксама вялікая радасць. Усё дзеля таго, каб радасна перажыць потым свята Божага Нараджэння. Усёй сям'ёй!

*І. Студзеньская*



# ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

## Не маю адвагі

Кожны чалавек хоча быць смелым. Я таксама. Але не ўмею ім быць, бо не заўсёды ўмею казаць праўду. Не хапіла ў мяне таксама адвагі сказаць у класе, што ў нядзелю я з мамай і татам хаджу ў касцёл. Мы расказвалі, як праводзім выхадныя. Ну я і прыдумаў трохі, бо не хацеў вылучацца. Я сказаў, што мы часта ездзім на прыроду і смажым там шашлыкі. А мае сябры ведалі, што я ездзіў усяго толькі раз, і то разам з імі, а не са сваёй сям'ёй, бо ў нядзелю мы ўсе ходзім у касцёл. Ну сябры і высмеялі мяне. Усе смяяліся і дражняцца цяпер, а мне сорамна. Але калі б я сказаў праўду, яны ж бы таксама смяяліся...

*Вадзік, г.Віцебск.*

## Ёсць розніца

Дык а якая розніца, Вадзім? Падумай сам: ты кажаш праўду — сябры смяюцца, падманваеш — таксама смяюцца. Ды толькі ўсё ж розніца ёсць, бо калі нават з цябе пасміхаюцца, але ты ведаеш, што праўда на тваім баку — табе няма аніякай прычыны чырванець. А калі з цябе пасміхаюцца, бо ты непрыгожа падманваеш, тады зусім іншая рэч. Ты ў такой сітуацыі гатовы скрозь зямлю праваліцца, але даводзіцца цярпець, бо сам вінаваты.

Дзе браць адвагу, спытаеш? Адзін мужчына распавядаў, што ён быў вялікім баязліўцам, пакуль не пачаў у складаных сітуацыях паўтараць імя: «Езус». Няхай сабе і ў думках. Паспрабуй, Вадзім: гэтае імя надае нам адвагі. Магчыма, ты таксама потым не будзеш саромецца казаць людзям пра тое, што ты хрысціянін.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



Ірына Жарнасек

# Страх адкінь

## Апавяданне

Антось усяго на свеце баяўся. Падумаць толькі – у свае адзінаццаць гадоў ён не меў адвагі заставацца адзін у цёмным пакоі! Ён баяўся падымацца на гару, калі ўсе ягоныя сябры весела на яе карабкаліся. А так-сяк усё ж падняўшыся ўслед за імі і больш дзеля іх – каб не насміхаліся, – ён потым асцярожліва спускаўся ўніз, калі астатнія з гучным смехам збягалі з тае гары. Антось не любіў узімку марозу, бо можна ж прастудзіцца ды абмарозіцца. Не любіў улетку гарачыні, бо можна атрымаць сонечны ўдар у самы лоб. Ён пастаянна баяўся захварэць. А калі ўсё ж хварэў, то не надта хацеў выздараўліваць, бо пасля, маўляў, тыя мікробы як налятуць, як агарнуць ягонае свежае ды здаровае цела!..

Хлопцу не падабалася ўсё, чаго ён не мог цвёрда адчуваць сваімі рукамі ці нагамі. Не прызнаваўся нікому, але сам вырашыў, што ні за якія грошы ніколі не паляціць у самалёце, бо зямля застанецца невядома дзе, зусім не пад ягонымі нагамі, а ён... ён таксама невядома дзе. Не, такія штукарствы не для яго! Ён ніколі не марыў стаць мараком і плаваць па моры, на паверхні якога ну ніяк жа не адчуеш цвёрдага дна! Ніколі не марыў адкрываць невядомае, бо, зразумелая рэч, чым можа пагражаць нармальнаму чалавеку тое невядомае.

Ды аднойчы з ім здарылася такое. Яны з сябрамі адпачывалі на невялікім мясцовым возеры, і сябры вырашылі пакатацца ў чаўне. Ён па зразумелых прычынах адразу адмовіўся.

– Баішся? – задзірыста запытаў у яго сябар Ромка.

– Не, проста не хачу плаваць, – зманіў і не міргнуў пры гэтым вокам Антось.

– Хачу – не хачу... – падціснула вусны Надзейка і прымружылася. – А вось мы без цябе паплывем, ты застанешся тут адзін... Не баішся, што прыйдзе мядзведзь ды-ы-ы...

Антось моцна заплюшчыў вочы і ледзь вытрываў, каб не закрычаць ад тае жудаснае карціны. Медзвядзёў ва ўсёй ваколіцы ніхто ніколі не бачыў і не чуў – ні паляўнічыя, ні ахоўнікі прыроды. Але ж гэта зусім не азначае, што раптам не заблукаў сюды нейкі адзін менавіта тады, калі яго тут найменш чакалі.

– Дык сядаеш ты ці не? – нецярпліва гукнуў Данілка.

Антось не на жарт раззлаваўся:

– А табе абы спяшацца, абы ляцець на злом галавы!

– Ну-у, калі ты не баішся медзвядзё-ёў, тады іншая рэч, – скочыла Надзейка ў падагнаны Ромкам човен. – Тады заставайся тут!

Словам, Антось сам не заўважыў, як вобмельгам апынуўся разам з сябрамі ў чаўне – нібы той нябачны мядзведзь сваёй калматаю лапай яго туды падкінуў. Сеў хлопец і на ўсялякі выпадак адразу папрасіў, каб яны не адплывалі далёка ад берага. Ды човен жа на тое і човен – каб плаваць па вадзе, а не слізгацца па прыбярэжнай твані. Дзеці неўпрыкмет адплылі – ніхто з іх, апроч Антося, і не заўважыў, як яны апынуліся ледзьве не пасярэдзіне возера.

– Прыгажосць якая! – усклікнула Надзейка і раскінула рукі, быццам хацела абхапіць тую блакітна-зялёную, у зіхоткіх сонечных промнях красу.

Антось сядзеў, учапіўшыся за борт, і на ягоным узмакрэлым ад поту твары адбівалася што заўгодна, толькі не радасць. Ромка зірнуў на сябра і... злітаваўся:

– Ладна, не тужы – зараз паплывем да берага.

Ды развярнуць човен аказалася не так проста – перашкаджаў вецер, які невядома адкуль наляцеў на іх ды пачаў забаўляцца з іхнімі кашу-





лямі і Надзейчынымі валасамі, то матляючы іх туды-сюды, то ўзнімаючы ўверх, і тады Надзейка рабілася падобнаю да нейкай казачнай гераіні. Вецер упіраўся ў човен, быццам хацеў затрымаць дзяцей. Ромка з Данілкам налеглі на вёслы, а Надзейка неспадзявана заспявала:

*Калі на моры вялікі вецер,*
*Хрыстос са мной у чаўне плыве...*

– Цішэй ты! Не перашкаджай! – паспрабаваў спыніць яе Антось, але Ромка з Данілкам нечакана таксама падхапілі:

*Калі на моры вялікі вецер,*
*Хрыстос са мной у чаўне плыве!*

А потым дружна ўтраіх:

*Трымае моцна за руку –*
*Човен не хістаецца!*

Прыгожая такая песня... Нічога не скажаш – прыгожая. Але ж хіба цяпер, менавіта цяпер, да песняў?! Ды сябры не суніmaліся, і наш баязлівец сам не заўважыў, як прыслухаўся, а праз колькі хвілінаў і сам пацішу пачаў падпяваць. У хуткім часе ўсе яны разам гучна й весела спявалі, ды так прыгожа, што людзі на беразе заслухаліся і пачалі размахваць рукамі у такт песні. А потым, калі песня скончылася і ўсе дружна – на беразе і ў чаўне – пляскалі ў ладкі, Надзейка раптам пасур'ёзнела, задумліва загледзелася ўдалячынь і паволі пачала зноў спяваць:

*Страх адкінь – на глыбіню плыві,*
*Сам Хрыстос цябе вядзе...*

Антось закусіў вусніну і таксама ўзіраўся туды, куды глядзела Надзейка. Ён зразумеў – гэтая песня, як і папярэдняя, была для яго. Спачатку неяк крыўдна зрабілася – што ён, гэткі няўклюда, каб яго песенькамі выхоўваць? Хацеў ужо раззлавацца, але злосць і крыўда кудысьці неўпрыкмет адплылі, растварыліся ў водным зіхоткім шлейфе, які пакідаў іхні човен на цёмна-блакітнай паверхні возера. Хлопчык сядзеў, слухаў, і дзіўная рэч – яму чамусьці зусім не хацелася вяртацца на бераг. І не толькі таму, што там яго мог чакаць суровы калматы мядзведзь, якога... яму таксама зусім не хацелася баяцца. Ну ні кропелькі!



# НАШ СВЕТ ПРЫРОДЫ



*Люба і Вера Варанко з Віцебска – сёстры. Яны любяць разам гуляць, і гэта ў іх добра атрымліваецца. Але наколькі ўсё мяняецца, калі яны прыязджаюць да бабулі з дзядулем, якія жывуць не ў кватэры, а ў доме! Самі разумееце, чаго і каго там толькі няма! Адна грозная Мурза чаго вартая! Яе баяцца ўсе – сябры, знаёмыя і незнаёмыя. А вось Вера з Любай – ніколькі! Бо гэтая Мурза робіцца з імі, нібы кацяня, альбо нібы яшчэ адзін жыхар гэтага дома – Флэш (не блытаць з флэшкай). Гэтаму Флэшу і банты можна завязваць, і косы заплятаць. Яму падабаецца ўсё.*





## І мы ў гэтым свеце



*Наша пастаянная чытачка і ўдзельніца конкурсаў Ганна Быхавец з вёскі Чарнешчына, што на Полаччыне, даслала нам свой прыгожы ўспамін пра лета ў выглядзе здымка. Праўда, ажно цяплей робіцца, калі глядзіш на вогнішча, пры якім Ганка (яна ў цэнтры) грэецца разам з сябрамі?*

*Сябры! А прыгожыя зімовыя здымкі ў вас ёсць? Аб'яўляем конкурс на лепшы зімовы здымак на прыродзе. Спяшайцеся! Зіма бяжыць ох як хутка! А каб было хутчэй – можаш выслаць здымак на E-mail: media.catholic.by*



# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Уступныя абрады*

**Пачуй, Божа, малітву маю…**
(Псальм 54,2)

Да таго, як распачнецца святая Імша, мы ціха молімся альбо сядзім і яшчэ раз узгадваем у думках інтэнцыю, з якой мы сёння прыйшлі ў касцёл.



Міністрант звоніць у званочак. Гэта азначае, што Імша пачалася.



Працэсія святароў і міністрантаў ідзе да алтара. Мы падымаемся і ўсе разам спяваем.







Святар і ўся служба пры алтары займаюць свае месцы ў прэзбітэрыі. Святар цалуе алтар.

Калі спеў заканчваецца, святар і вернікі разам з ім робяць знак крыжа. Святар вітае вернікаў словамі: «Пан з вамі!».



Мы ўсе разам адказваем: «І з Духам тваім!».





# Улада Ягоная вечная

**Кніга прарока Даніїла**
*Раздзел 7, вершы 13-14*

Бачыў я ў начных візіях:
вось разам з аблокамі нябеснымі ішоў нібы Сын Чалавечы, наблізіўся Ён да Старадаўняга і быў падведзены да Яго. І дадзена Яму была ўлада, і гонар, і валадарства.

І ўсе плямёны, народы і мовы служылі Яму.

Улада Ягоная — вечная ўлада, якая не адымецца.

І валадарства Ягонае не будзе знішчана.







## Блізкі і зразумелы

На свеце ёсць шмат валадароў. Адным даверылі гэтую ўладу людзі, іншыя захапілі яе самі ды так і не думаюць аддаваць. Адны любяць людзей і жадаюць рабіць ім дабро, іншыя больш думаюць пра сябе ды сваю сям’ю. Ёсць і такія, што ні пра каго, апроч сябе, не жадаюць дбаць.

Езус жа сказаў, што Яго валадарства не ад гэтага свету. Гэта значыць, што сам Бог Айцец даў Яму гэтае валадарства. А мы, якія належым да Хрыста, таксама можам быць раўнапраўнымі ўдзельнікамі і жыхарамі Ягонага валадарства. Пра гэта Ён нам сказаў у сваім Евангеллі. Нам вельмі важна не здраджваць Хрысту, а вызнаваць Яго сваім Панам і Збаўцам. І рабіць гэта трэба штодня, трэба заўсёды памятаць пра тое, што мы — Хрыстовы, хрысціяне, і таму павінны жыць так, як наказаў нам Хрыстус.

Дык прыгадайма ж таксама пра гэта і тады, калі ўкленчым пры Ягоных яслях. У гэты час Ён нам, дзецям, асабліва блізкі і зразумелы, бо гэтаксама, як і мы, Ён у гэтых яслях Дзіця.



# ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

Хто з вас, сябры, чакае ад мяне чарговую порцыю загадак? Спадзяюся, не толькі нашы пастаянныя аматары, але і хтосьці з тых, хто ўпершыню адважыцца ўзяцца за гэтую цікавую справу. Чытайце, сябры, Евангелле ўважліва, удумліва, разважайце над ягонымі старонкамі і... адгадвайце нашы загадкі. Усё дзеля таго, каб як найлепш разумець гэтую кнігу. Дык за працу! Поспехаў вам!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

- З якога горада падарожнічалі святы Юзаф са святой Марыяй на перапіс насельніцтва? (Лк 2, 1-7)
- Пра што расказалі пастухі Святой Сям'і, калі прыбеглі пакланіцца Езусу? (Лк 2, 1-7)
- Ці трэба нам давяраць асобным нашым снам? Як думаеш, чаму? (Мц 1, 18-25)
- Чаму святары і кніжнікі сказалі цару Іраду, што Езус народзіцца ў Бэтлееме? (Мц 2, 1-6)
- Які прарок Старога Запавету прадказваў нараджэнне Езуса Хрыста? (Ян 1, 19-28)
- Па чым Ян Хрысціцель пазнаў, што той Чалавек, які прыйшоў хрысціцца ў яго, – Сын Божы? (Ян 1, 29-34)
- Якое галоўнае заданне павінен быў выканаць святы Ян Хрысціцель? (Лк 1, 67-79)

*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»**, *змешчаныя ў №3 за 2012 г.*

Апосталы Пётр і Ян былі рыбакамі, а апостал Мацвей працаваў мытнікам; доктар; Маці Божая ўмела ткаць, бо Езус насіў хітон, вытканы Яе рукамі; 8 верасня; Габрыэль, Рафал і Міхал; Сцяпан, Піліп, Прохар, Міканор, Цімон, Пармен, Мікалай; дзеямі.



Узнагароду часопіса за правільныя адказы атрымае **Аляксандр Шэршань** з в. Янкавічы, што на Пастаўшчыне.

Чакаем вашых адказаў на новыя загадкі. Нагадваем, што адказы можна таксама дасылаць і электроннай поштай на e-mail:media@catholic.by

*Поспехаў!*

*І... не бойцеся складаных загадак!*

*Рэдакцыя*

## Выберы дарогу

Выберы найлепшую дарогу, па якой дойдзеш да Езуса. На кожным скрыжаванні добра падумай, да чаго вядзе цябе дарога, якую ты выбіраеш.




## Смяшынкі-весялінкі

**Засоладка**

Уладзік прыйшоў праведаць сябра Стася.

– Будзеш піць гарбату? – запытаў Стась.

– Абавязкова!

– Колькі табе цукру?

– Сем лыжачак. Але не мяшай, бо занадта соладка будзе.

# Прыгоды ксяндзаЛявона

## Падзяка

Мужчына ў расшпіленай куртцы ўжо хвілін дзесяць муляўся у парозе, пераступаў з нагі на нагу і штосьці казаў, казаў… Ды толькі ксёндз Лявон па ягонай блытанай гаворцы нічога не разумеў.

– Ай, што тут гавэнды разводзіць, – перапыніў раптам сам сябе госць, – вось! – паставіў ён на столік бутэльку з нейкай карычневай вадкасцю. – Дзякуй, ксёндз!

– Што гэта? – баючыся паверыць у нядобрае прадчуванне, запытаў гаспадар.

– Каньяк!

– Што-о-о? А для чаго ён мне?

– Я ж кажу – гэта за тваё, ксёндз, добрае сэрца, за тое, што навучыў мяне тады, на базары, як мне з бядоты выкараскацца. Забыўся? Ну, я пасля п'янкі быў… як заўсёды… І казаў табе, што жыць мне ўжо няміла. Не памятаеш?

Нарэшце ксёндз Лявон успомніў гэтага чалавека і іхнюю размову на віцебскім базары. Няпростая была гаворка. Чалавек жаліўся, ажно слёзы цяклі па твары, не ведаў, як яму жыць далей і навошта. Бога, казаў, не ведае, як да Яго звяртацца – таксама не ведае. Ды і ці патрэбны ён такі, п'яніца, Богу?



Тады ксёндз Лявон і павучыў яго:

– Маліся коратка: «Езу Хрыстэ, Сыне Божы, змілуйся нада мною, грэшным». Дзе б ні быў, куды б ні ішоў, што б ні рабіў – прасі шчыра, усім сэрцам Пана Бога, пакуль не зразумееш: любіць цябе Бог! А калі любіць, то і злітуецца. Толькі ты сам павер.

Напісаў ксёндз Лявон яму на сваёй візітоўцы гэтыя восем словаў, на тым і развіталіся. І вось… сустрэліся.

– Маліўся я, ксёндз, як навучыў, – выцер мужчына рукавом вочы. – Прасіў Бога, як параіў… Настойліва, до-оўга прасіў… І што думаеш? Не п'ю я болей, ксёндз! Ці паверыш?

– Дык а-а-а… гэта?.. – кіўнуў ксёндз Лявон на столік з бутэлькай.

Мужчына засмяяўся:

– Я ж кажу: гэта табе падзяка! Я ж, ксёндз, не каньякі, а чарніла піў ды розную там дрэнь… Э-эх! Лепш не ўспамінаць!

Ксёндз Лявон нарэшце ўсё зразумеў і з палёгкай гучна засмяяўся, ды так, што і спыніцца цяжка было:

– Значыць, ты мне гарэлкай дзякаваць прыйшоў за тое, што сам перастаў піць?! А калі я цяпер сап'юся? – выціраў ён слёзы ад смеху.

– А ратуй, Божа! – ускінуў рукі ўгору госць, а потым апусціў іх і вінавата ўздыхнуў: – Ад шчырага сэрца я… Ды і не гарэлка тут, а каньяк… Прашу не блытаць!

Скончылася гэтая гісторыя тым, што занеслі яны ўдваіх той каньяк бабулі Анэце, якая націрае сваю хворую спіну рознымі настойкамі. Тая вельмі ўзрадавалася і пачаставала іх печанымі яблыкамі з мёдам.

– Во дзе смаката! – прыгаворваў госць ды круціў галавой ад задавальнення. – Падумаць страшна: я ж мог ніколі не пакаштаваць такой смакаты!

*Прыгоду запісала І. Ж.*

## Галерэйка



*«Нараджэнне Езуса Хрыста», Валерыя ШКІРУЦЬ, 9 гадоў, г.п. Астравец.*



*«Пакланенне», Аліна ВАЙШНАРОВІЧ, 9 гадоў, г.п. Астравец.*



*«Зорка прывяла», Антон АЗЕВІЧ, 9 гадоў, г.п. Астравец.*



*«Святыні», Юля КАРЭЙВА.*



*«Бэтлеем», Віола ЛУКША, 8 гадоў, г.п. Астравец.*



*«Чалавек моцнай веры», Стас ПЯТРОВІЧ.*